**№28 (1841)**

Аўторак, 17 лютага 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец УП «Народная воля».

Кошт свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**


**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**


### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -4...-2, без ападкаў, уначы — -4...-2, снег; у Брэсце ўдзень — -1...+1, без ападкаў, уначы — 0...+2, снег; у Гродне ўдзень — -1...+1, без ападкаў, уначы — -1...+1, снег; у Віцебску ўдзень — -8...-6, уначы — -11...-9, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -4...-2, уначы — -10...-8, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -6...-8, уначы — -10...-8, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



ПУЛЬС

## Беларусь не выконвае стандарты АБСЕ

"Беларусь не выконвае стандарты АБСЕ ў галіне свабоды СМІ, выбараў і няўрадавых арганізацый". Такую заяву зрабіў паверэны ў справах місіі ЗША ў АБСЕ Брус Конак, выступаючы на пасяджэнні Пастаяннага савета арганізацыі ў Вене.

Б.Конак адзначыў, што вялікія падатковыя санкцыі ў дачыненні да Беларускага Хельсінкскага камітэта, неаднаразовыя спробы беларускіх уладаў перашкодзіць публікацыі і распаўсюджванню незалежных выданняў, а таксама нежаданне беларускага ўрада працаваць над праблемнымі пытаннямі ў галіне выбараў і выбарчага заканадаўства, абазначаныя Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ.

Б.Конак падкрэсліў, што парламенцкія выбары восенню 2004 года даюць Беларусі магчымасць "прадэманстраваць сваю прыхільнасць" прынцыпам АБСЕ.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Адбудзецца адкрыццё мемарыяльнай залы, прысвечанай Васілю Быкаву

19 чэрвеня, у дзень 80-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, у прыватным Музеі выяўленчага мастацтва Анатоля Белага ў Старых Дарогах адбудзецца ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай залы, прысвечанай пісьменніку.

Як паведаміў БелаПАН Анатоль Белы, вядомы беларускі краязнаўца, старшыня Мінскага гарадскога культурна-асветніцкага клуба "Спадчына", у фондах музея знаходзяцца больш за 200 рэчавых, пісьмовых і выяўленчых матэрыялаў, што маюць дачыненне да жыцця і дзейнасці Васіля Быкава. Сярод іх — кнігі з уласнай бібліятэкі пісьменніка, яго прыжыццёвыя жывапісныя партрэты і графічныя творы.

У фондах музея таксама ёсць малюнкі, створаныя рукой пісьменніка, яго ўласныя рэчы і тэатральныя афішы спектакляў, пастаўленых паводле яго твораў. Апроч таго, музей валодае вялікай колькасцю фатаграфій, што адлюстроўваюць насычанае творчае і грамадскае жыццё Васіля Быкава.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Вярхоўны суд адмовіў драматургу Аляксею Дудараву

Судовая калегія па патэнтных справах Вярхоўнага суда Беларусі адмовіла старшыні Саюза тэатральных дзеячаў драматургу Аляксею Дудараву ў іску да Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" аб кампенсацыі нявыплачанага аўтарскага ўзнагароджання. Гаворка ідзе ад дэманстрацыі па тэлебачанні мастацкага фільма "Белыя росы" паводле сцэнарыя драматурга пасля 1996 года, калі ў краіне быў прыняты Закон "Аб аўтарскім праве і сумежных правах".

Як паведаміў БелаПАН А.Дудараў, суд вырашыў, што "ў сувязі з тым, што фільм быў створаны ў 1983 годзе і аўтарскія правы належалі стваральніку карціны — кінастудыі "Беларусьфільм", то ёй яны належаць і зараз, і прыняце Закона "Аб аўтарскім праве і сумежных правах" у 1996 годзе ніяк не можа на гэта ўплываць". Драматург зазначыў, што аўтары, якія стваралі свае аўдыявізуальныя творы пасля 1996 года, маюць права на аўтарскае ўзнагароджанне за кожны від выкарыстання твору. "Такое рашэнне суда, — сказаў А.Дудараў. — Яно ўступіла ў сілу, мае сілу закона, а я як законапаслухмяны чалавек падпарадкоўваюся яму і паважаю. Рашэнне суда канчатковае і не падлягае абскарджванню".

Трэба зазначыць, што драматург не карыстаўся паслугамі адвакатаў і абараняў сябе сам. "Адвакат не зрабіў бы больш, чым я, — лічыць А.Дудараў. — Я добра ведаю Закон "Аб аўтарскім праве і сумежных правах", каб абараняць сябе самастойна.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Сёння ў Мінску адкрываюцца дзве выставы будаўнічай тэматыкі

Гэта — 20-я міжнародная выстава жылля і будаўніцтва "Беларускі дом — 2004" і 14-я спецыялізаваная — "Катэдж. Лецішча. Сад".

Мерапрыемствы пройдуць у павільёне па праспекце Машэрава, 14. У рамках "Беларускага дома" будуць прадстаўлены будаўнічыя і аддзелачныя матэрыялы, а таксама тэхналогіі іх вытворчасці, сталярныя вырабы, ручны інструмент, сістэмы аховы і абароны ўласнасці, сантэхніка, абсталяванне для ацяплення і абагрэву, мэбля, прадметы інтэр'ера. Навінкай гэтага форуму стане спецыялізаваная выстава "Драўлянае дойлідства", у рамках якой будуць прадстаўлены катэджы, загарадныя дамы і лазні з драўніны, тэхналогіі для апрацоўкі драўніны, дрэваапрацоўчыя станкі, сталярныя вырабы і мэбля.

Паводле інфармацыі арганізатараў, год таму ў выставе "Беларускі дом" узялі ўдзел больш чым 160 прадпрыемстваў з Беларусі, Германіі, Італіі, Славеніі, Польшчы, Літвы, Расіі і Украіны.

Што да выставы "Катэдж. Лецішча. Сад", то асноўныя кірункі яе экспазіцыі — ландшафтнае праектаванне, азеляненне і добраўпарадкаванне тэрыторый, аквадызайн, садавіна і гародніна, кветкі, садова-агародны інвентар, цяпліцы і парнікі.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**



ТАК И СКАЗАЛ

*Александр ЛУКАШЕНКО:*

## «...Мы ведь бесплатно, за копейки, обслуживаем Россию в противовоздушной обороне, перемещении авто- и железнодорожного транспорта».



### *Блиц-комментарий*

*А зачем «бесплатно, за копейки, обслуживать Россию...»? Не давно ли пора все поставить на основу рыночных отношений? Платим за нефть, газ по принятым ценам, но будьте добры, друзья-соседи, заплатите нам нормальные деньги за прокачку тех же энергоносителей на Запад, за военные объекты под Ганцевичами, в Вилейке...*

*Словом, нужно кончать играть в политические игры, а переходить на цивилизованные отношения. И не имеет значения, речь идет о связях с Россией, или с Литвой, Польшей, Украиной...*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Жураўковай павінны прад'явіць абвінавачанне да чацвярга



Былы Кіраўнік справамі прэзідэнта Галіна Жураўкова ўсё яшчэ знаходзіцца ў следчым ізалятары Камітэта дзяржаўнай бяспекі (КДБ), у так званай "амерыканцы". Цікава, але тым жа КДБ першапачаткова паведамлялася, што абвінавачанні для дзяржаўнай бізнесменкі павінны былі прагучаць на працягу трох дзён пасля затрымання (а яно адбылося ў мінулы аўторак, 10 лютага). Але нават у пятніцу, 13-га, гэтых абвінавачанняў агучана не было. Як высветлілася, максімальны тэрмін іх прад'яўлення чамусьці быў працягнуты...

Учора, у панядзелак, кіраўнік цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў Камітэта дзяржаўнай бяспекі **Аляксандр БАЗАНАЎ** паведаміў "Народнай волі", што *"абвінавачанне Галіне Жураўковай, згодна з Законам, павінны прад'явіць на працягу дзесяці дзён пасля затрымання"*. Гэта азначае, што апошні тэрмін — чацвер, 19 лютага.

Чым жа выклікана затрымка з абвінавачаннямі Жураўковай? Гэта па меншай меры дзіўна, тым больш што ордэр на яе арышт быў падпісаны пасля таго, як старшыня Камітэта дзяржкантролю А.Тозік і старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Л.Ерын пабывалі ў Лукашэнкі. Нагадаем, дарэчы, словы Аляксандра Рыгоравіча на апошняй нарадзе ў Саўміне: *"Майце на ўвазе, адказнасць, дысцыплінаванасць і парадак — найважнейшыя патрабаванні да членаў урада. Літасці не будзе нікому. У тым ліку і тым, хто называе сябе "людзьмі прэзідэнта"*.

Злыя языкі сцвярджаюць, што нечаканая затрымка з прад'яўленнем абвінавачання Жураўковай звязана з пэўнымі акалічнасцямі. Гаворка ідзе не пра абы каго, а пра чалавека, які займаў ключавую пасаду. Згодна з неафіцыйнай інфармацыяй, Кіраўніцтва справамі прэзідэнта рабіла даволі вялікі ўклад у напаўненне так званага спецрахунку, у фінансаванне расходаў прэзідэнцкай Адміністрацыі і самога Лукашэнкі. Іншымі словамі, спадарыня Жураўкова была быццам своеасаблівым спонсарам. І менавіта таму трэба добра ўсё ўзважыць, фармулюючы абвінавачанне. Недарэмна ж былы кіраўнік прававога ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Пласкавіцкі паведаміў, што *"арышт спадарыні Жураўковай можа ўдарыць і па Лукашэнку"*.

Нагадаем, што Галіна Жураўкова была прызначана на сваю апошнюю пасаду ў лютым 2001 года, перад гэтым яна ўзначальвала Беларускі дзяржаўны канцэрн мастацкіх промыслаў. Увесь час да арышту многія лічылі Жураўкову "чалавекам прэзідэнта". Незалежныя СМІ неаднаразова пісалі пра тое, што Кіраўніцтва справамі прэзідэнта на чале з Жураўковай імкнулася кантраляваць шэраг прыбыльных рынкаў — нафты, рыбы, цукру, нерухомасці і г.д.

**Алесь СІЛІЧ.**

## Варапаева — адрас еўрапейскай мэблі

Незвычайна хутка скараціліся сёлета запасы гатовых вырабаў на складах Варапаеўскага дрэваапрацоўчага камбіната, што непадалёку ад Пастаў. Адначасова ў казну прадпрыемства пацякла нязвыкла шчодрая плынь цвёрдай замежнай валюты.

Гэтыя станоўчыя зрухі ў жыцці камбіната тлумачацца своечасовым пераходам на выпуск супермоднай, канкурэнтаздольнай прадукцыі, якая цяпер пастаўляецца ў дальняе замежжа.

Правінцыйнаму беларускаму прадпрыемству пашчасціла ў тым, што апошнім часам у Заходняй Еўропе з'явіўся попыт на мэблю ў стылі "рэтра", падобную да той, што мелася ў вясковых сем'ях 50 і больш год таму.

Дзіўныя хістанні моды вынеслі на яе паверхню мэблю, якую ў Варапаеве рабілі ў даўнія часы і яшчэ не развучыліся ладзіць дагэтуль, — груваcткія, але надзейныя і трывалыя "бабуліны" камоды, куфары, серванты, круглыя сталы ды іншыя хатнія рэчы з натуральнай драўніны, упрыгожаныя разьбой.

Менавіта гэткія ўзоры сваіх вырабаў, змайстраваных па арыгінальнай тэхналогіі, таніравання чыстай драўніны "пад старую", варапаеўскія мэбельшчыкі прадставілі летась на прамысловых кірмашах у Мінску і Маскве, дзе іх і заўважылі прадстаўнікі буйной гандлёвай фірмы Францыі. Неўзабаве фірма афарміла дагавор з камбінатам, і мэбля старога (але, аказваецца, супермоднага) стылю рэгулярнымі партыямі пачала адгружацца ў Парыж ды іншыя французскія гарады. Ні з перадаплатай, ні з канчатковымі разлікамі ў вытворцаў і спажыўцоў няма ніякіх непаразуменняў.

Даведаўшыся аб замежным поспеху варапаеўскай мэблі ў стылі "рэтра", ёю зацікавіліся заможныя новыя беларусы, якія пачалі рабіць заказы на супермодную абстаноўку для сваіх кватэр і катэджаў.

Варапаеўскі дрэваапрацоўчы камбінат — пакуль што адзінае прадпрыемства мясцовай прамысловасці Віцебшчыны, якому ўдалося прарубіць у Еўропу даволі шырокае экспартнае акно. Але нават адзін гэты прыклад сведчыць аб тым, што пры жаданні, разумным разліку і без наўмысных адміністратыўных перашкод з боку айчыннай бюракратыі ў Беларусі можна наладзіць выпуск і продаж тавараў міжнароднага ўзроўню.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Курсы замежных валют

*На 17 лютага Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

*1 долар ЗША — 2155,00 рублёў*
*1 еўра — 2750,21*
*1 расійскі рубель — 75,63*
*1 аўстралійскі долар — 1704,07*
*1 балгарскі леў — 1406,43*
*1 дацкая крона — 369,14*
*1 СДР — 3250,69*
*1 ісландская крона — 31,74*
*10 японскіх іен — 204,34*
*1 казахскі тэнге — 15,50*
*1 канадскі долар — 1637,60*
*1 кувейцкі дынар — 7313,14*
*1 кыргызскі сом — 49,62*
*1 латвійскі лат — 4093,84*
*1 літоўскі літ — 796,50*
*1 малдаўскі лей — 171,03*
*1 нарвежская крона — 313,51*
*1 польскі злоты — 566,66*
*1 сінгапурскі долар — 1285,95*
*10.000 турэцкіх ліp — 16,34*
*1 украінская грыўна — 404,03*
*1 англійскі фунт стэрлінгаў — 4066,59*
*1 чэшская крона — 84,68*
*1 шведская крона — 300,08*
*1 швейцарскі франк — 1743,74*
*1 эстонская крона — 175,73*

**БелаПАН.**

## Заваявалі бронзавы медаль

Бронзавы медаль Кацярыны Івановай у спрынтэрскай гонцы на 7,5 кіламетра аказаўся адзіным у актыве беларускай зборнай на чэмпіянаце свету, які завяршыўся ў нямецкім Оберхофе. Узнагарода была заваявана ў першы дзень чэмпіянату, пасля гэтага на п'едэстал беларускія спартсмены не падымаліся.

Найбольшую колькасць медалёў заваявалі біятланісты Нарвегіі — 9 (4 залатыя, 2 сярэбраныя і 3 бронзавыя). Па 6 медалёў на рахунку французаў (3-1-2), немцаў (2-3-1) і расіян (1-3-2), па 1 — у каманд Польшчы (0-1-0), Беларусі (0-0-1) і Украіны (0-0-1).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## З-за кароткага замыкання

У выніку пажару, які ўзнік з-за кароткага замыкання ў тэлевізары, ноччу ў Кобрыне загінулі муж і жонка, прыватныя прадпрымальнікі. Іх дачка, якая знаходзілася ў другім пакоі, паспела выбегчы да суседзяў.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

ОНИ — О НАС

# Россия и Беларусь: развенчание мифов

**Сергей КАРАГАНОВ, председатель редакционного совета журнала "Россия в глобальной политике"**

Уже несколько недель идет очередной спор вокруг цены на поставляемый в Беларусь газ, стоимости транзита, угроз представителей белорусского руководства начать несанкционированный отбор российского газа из трубопроводов. (Когда в прошлом такой практикой занялась Украина, в нашей печати это называлось прямо — воровством.)

Для тех, кто следит за развитием или, вернее, деградацией российско-белорусских отношений, этот спор и подобные угрозы не новость. Не нова и очередная попытка рационализировать экономические отношения между Россией и Беларусь, сделать их взаимно выгодными, освободившись от представлений и мифов недавнего прошлого о ситуации в соседней братской стране, о Союзном государстве.

Рассмотрим эти мифы.

**Первый.** Он пропагандируется левыми политиками, для которых политический и экономический режим, складывавшийся в соседней стране, соответствует их оставшейся в прошлом мечте. О том, что социализм советского образца можно построить, причем в отдельно взятой стране. Это миф об успехе белорусской экономической модели. На первых порах Беларусь действительно развивалась относительно благополучно, и падение экономики в ней было гораздо менее видимым, чем коллапс хозяйства в резко перешедшей к рыночным реформам России. Но сейчас хозяйство Беларуси медленно и уверенно валится вниз. И это несмотря на огромное по тамошним масштабам прямое или скрытое субсидирование Россией белорусской экономики и бюджета. За счет низких цен на энергоносители, прямых кредитов, закупок по бартеру белорусский бюджет, а соответственно, и политический режим получают до критической трети своих доходов. Две пятых бюджета складываются за счет таможенных платежей и штрафов, получаемых от перевозчиков товаров в Россию.

**Миф второй.** Россия и Беларусь строят Союзное государство. Этот миф поддерживается бюрократией, образовавшейся вокруг этого проекта, российской правительственной бюрократией, прикрывающей этим мифом неспособность вести понятную и целенаправленную политику в отношении Беларуси, а также руководством последней. Оно пытается получить под это "строительство" подачки, которые продлевают жизнь недееспособной экономической системы. Президент Беларуси черпает в нем значительную часть своей политической легитимности. При этом в неудачах на пути этого строительства неизменно и во все более жесткой форме обвиняется Москва или некие силы в ней.

Между тем проект создания Союзного государства давно зашел в тупик. Кто-то (в Москве) в нем видел возможность движения к воссоединению двух стран, кто-то — возможность продлить свое пребывание у власти или (в Минске) возможность завоевать московский престол.

Но серьезной воли к сближению не было. К тому же налицо была и осталась недооценка необходимости перед началом политического надстроечного объединения привести в соответствие базисные экономические составляющие этого процесса. Не может Россия, худо-бедно развивающаяся по капиталистическому рыночному пути, интегрироваться с Беларусью, развивающейся почти в противоположном направлении. Вопрос о необходимости рыночных реформ в Беларуси ребром не ставился. Наоборот, Москва, как теперь видно, в тщетной надежде подачками склонить белорусского партнера к реформам и сближению ухудшала ситуацию. Прямая и косвенная экономическая помощь продлевала жизнь недееспособной экономической системе, содействовала созданию синдрома иждивенчества. В руководящих кругах Минска сложилось впечатление, что Москву можно бесконечно водить за нос, вытягивая реальные экономические уступки на обещания виртуального сближения. Некоторые шаги навстречу друг другу были сделаны. Создано общее таможенное пространство (со всеми проблемами). Формируется общее человеческое пространство. Но когда дело дошло до серьезных шагов по интеграции, Минск их заблокировал.

Зато вовсю расцветала теология интеграции. Чуть ли не всерьез спорили о форме Союзного государства, его органах. Выдвигались и как будто всерьез обсуждались варианты Конституционного акта.

Сначала вся эта бюрократическая канитель использовалась для блокирования сближения его российскими противниками, опасавшимися прихода к власти в России А.Г.Лукашенко. Затем ее стали активно использовать в Минске, где испугались, видимо, что сближение с Россией, ее экономической моделью, подорвет существующую структуру власти, и оказались неспособными понять, что реформы под российским экономическим и политическим прикрытием — единственный способ избежания катастрофы для Беларуси.

**Миф третий.** Руководство Беларуси является пророссийским. Миф пропагандируется людьми, просто не знающими или не желающими знать правду. Наверное, так когда-то и было. Теперь же только слепой и глухой может не замечать очевидного. Антироссийская пропаганда постоянно звучит из уст официальных деятелей и с официальных телеканалов (она поутихла только в последние недели). Российские политические и новостные программы последовательно вытесняются с белорусских телеэкранов.

В результате в России дружно клеймят грузин за их антироссийские высказывания, но совершенно не хотят замечать, что гораздо более мрачная картина складывается прямо к западу от наших границ.

**Миф четвертый.** А.Г.Лукашенко нет альтернативы. Понятно, кому выгоден этот миф. Один раз он уже сработал на прошлых выборах. Сейчас его запускают для обеспечения выборов на третий срок, для создания психологической ситуации безысходности. Между тем он не только ложен. Популярность президента Беларуси медленно, волнообразно, но верно снижается, а в стране есть немало способных, образованных и дельных людей. Этот миф опасен и для Беларуси, и для России, да и для самого белорусского президента и его окружения. Продление срока полномочий не только не остановит деградацию страны, ее экономики, но и неизбежно усилит репрессивность режима. Тогда останется только считать время до повторения белградского или тбилисского сценариев. Притом изменения придут не из Москвы.

Что делать? В общем, понятно.

Первое. Освободиться от перечисленных и других мифов.

Второе. Начать проводить последовательную политику, которая создавала бы условия для перехода братской Беларуси к более рациональной модели внутренней и экономической политики.

Российская же политика не должна быть нацелена против А.Г.Лукашенко. Он —* законно избранный президент. У него немало заслуг, в том числе и в глазах россиян. Беларусь — единственная из стран, где не ограничивают русский язык. У него есть еще теоретический шанс стать белорусским Дэн Сяопином — реформатором, поднявшим страну.

Но мы не можем позволить, чтобы из-за нашего недомыслия или бездействия на западных границах России образовывался источник нестабильности и деградации. Это было бы безответственным и с точки зрения российских интересов, и с точки зрения наших действительно братских чувств к белорусскому народу.

Остается надеяться, что переход к оплате цен на газ по рыночным ценам станет первым шагом на пути выработки реалистичной, а значит, подлинно конструктивной российско-белорусской политики

*("РГ".)*

** Автор, видимо, преднамеренно закрывает глаза на то, в каких условиях проходили в Беларуси последние президентские выборы, и на то, что многие международные структуры ставят под сомнение легитимность их результатов.*

СЛЫШАЛИ?

# Большой марш на Восток

*Согласно опросу, проведенному газетой «Вельт ам зоннтаг», почти все немецкие фирмы, акции которых входят в биржевой индекс DAX, не только уже имеют филиалы в Восточной Европе, но и собираются открывать новые.*

Причина этого процесса, который немецкие журналисты окрестили "Большим маршем на золотой Восток", одна: стоимость труда. В Германии расходы на заработную плату и отчисления в страховые фонды непомерно высоки. По информации экспертов, почти каждое четвертое немецкое предприятие в ближайшие три года частично перенесет производство из Германии за рубеж.

Об этом сообщает радио "Немецкая волна" и продолжает: "У немецкого предпринимателя простой выбор. За одну и ту же сумму денег он может нанять одного местного работника или пятерых, но в Польше. Правда, в Германии работают в среднем более производительно, но, конечно, не в пять раз. К тому же восточноевропейские страны предлагают западным инвесторам условия, которые тем на родине и не снились. Например, в Словакии концерну "Фольксваген" пообещали десятилетнее освобождение от налогов. Похожие условия ждут "Ауди" в Венгрии. В Восточной Европе перед иностранными инвесторами готовы делать "стойку на голове", иронично замечает "Вельт ам зоннтаг". А последние, кажется, нашли для себя налоговый рай. И не где-нибудь, а в границах Евросоюза, куда в мае этого года вступают восточноевропейские страны".

Из передачи мы узнаем, что больше всех довольны производители промышленного оборудования и автомобилей. Концерн "МАН", например, переводит целый завод по изготовлению электропроводки для автомобилей из Верхней Баварии в Польшу: 370 рабочих мест. "Фольксваген" уже вложил 7 миллиардов евро в предприятия, построенные в Польше, Словакии, Чехии и Венгрии. Следом за машиностроительными фирмами на Восток потянулись высокотехнологичные компании. "Сименс" создает рабочие места для специалистов в Польше. DHL, дочернее предприятие "Дойче пост", размещает вычислительный центр в Праге. "Инфенион" отправляет свое финансово-бухгалтерское подразделение в Венгрию. Компьютерные специалисты на Востоке оказались не менее компетентными, чем их немецкие коллеги, вот только работать соглашаются за половину зарплаты, принятой в Германии.

В этой передаче нет даже упоминания о Беларуси. Как, впрочем, и о России и Украине. И это печально. Современные ведущие фирмы, а вместе с ними и высокотехнологичные производства, обходят стороной нашу страну. И причина этого известна: экономическая и политическая ситуация в Беларуси, которая и ведет к экономическому застою и отставанию. Мы вновь упускаем исторический шанс вырваться из бедности и отсталости.

**Подготовил к печати Сергей ИВАНОВ.**

МНЕНИЕ КОМПЕТЕНТНОГО ЧЕЛОВЕКА

# Пенсии: почему плачут старики?



В связи с дискуссией "Вакол пенсій ...", возникшей на страницах "Народнай волі", хочу высказать ряд суждений как человек, отработавший не один десяток лет в системе социальной защиты и знакомый со слагаемыми проблемы низкого уровня трудовых пенсий, как говорится, изнутри.

Банальная истина: исходя из принципов социального страхования предназначение пенсии состоит в том, чтобы компенсировать заработок, утраченный в связи со старостью или инвалидностью. Чем выше уровень замещения заработка в стандартной средней пенсии, тем больше средств требуется для финансирования пенсий. Средства на эти цели, как известно, зарабатываются теми, кто занят в экономике в текущий период времени, и направляются в Фонд социальной защиты населения в виде взносов на пенсионное страхование. Тариф взносов для большинства работодателей составляет 29 процентов фонда заработной платы, а для работников — 1 процент индивидуальной зарплаты. Понятно, что пенсионные взносы включаются в стоимость рабочей силы, которая, в свою очередь, является составной частью стоимости производимых товаров и услуг, потребляемых всеми членами общества.

Казалось бы, самый простой путь к повышению уровня выплачиваемых пенсий — увеличение тарифа страховых взносов. Однако, возможно ли это в наших условиях? Его увеличение для работодателей неизбежно повлечет за собой повышение стоимости продукции, а значит снижение ее конкурентоспособности и другие негативные последствия для экономики. К слову, в Беларуси нынешний пенсионный тариф и без того высок. У нас он выше чем в России и во многих других государствах.

Не только пенсионерам сегодня не хватает пенсионных сумм для сносного существования. У большинства работающих зарплата весьма скромная. Так, доход работника, имеющего среднестатистическую заработную плату (в IV квартале истекшего года она была 285,3 тысячи рублей), после налоговых удержаний лишь на 12 процентов превышает минимальный потребительский бюджет в расчете на его одного. А семья, дети? К тому же далеко не каждый работник имеет зарплату на уровне средней. При низких заработках тех, кто своими взносами формирует пенсионный фонд, не может быть хороших пенсий. Именно поэтому первоочередной задачей должно быть повышение доходов занятых в экономике, что автоматически влечет за собой увеличение объема поступлений в Фонд и адекватную индексацию трудовых пенсий, как это периодически происходит. В истекшем году произведено две таких индексации. В текущем году пенсии проиндексированы в феврале исходя из соответствующего роста зарплаты за предшествующий квартал.

В качестве показателей, характеризующих уровень трудовых пенсий, используются два соотношения: средней пенсии и средней заработной платы в стране (коэффициент замещения) и средней пенсии и бюджета прожиточного минимума. За 2003 год коэффициент замещения в Беларуси составил 41 процент, а соотношение средней пенсии и БПМ пенсионера — 115 процентов. В России эти показатели составили соответственно 31 и 101 процент. Более высокий коэффициент замещения в Беларуси говорит о большей доле отчислений работающего поколения на финансирование пенсий. Однако нашей пенсионной системе все труднее обеспечивать сложившийся уровень пенсий, не говоря уже о его повышении. Вынужденной мерой явилось принятие в 2002 году решения об изменении порядка и периодичности индексации трудовых пенсий. С одной стороны, такая мера позволила упредить дефицит средств и задержки с выплатой пенсий, а с другой стороны, уменьшение частоты индексации пенсий не могло не сказаться на уровне пенсий: в истекшем году в сравнении с 2001 годом он несколько снизился как по отношению к средней зарплате, так и по отношению к БПМ.

Некоторые участники дискуссии ошибаются, полагая, что причины недостаточности пенсий в пенсионном законе (хотя он и нуждается в существенной рационализации и адаптации к изменяющимся условиям, о чем чуть ниже). Проблема здесь, прежде всего, в негативном влиянии на пенсионную систему внешних факторов: экономических, демографических, состояния рынка труда. Так, финансовое положение многих субъектов хозяйствования сложное (доля убыточных предприятий в 2003 году превышала 30 процентов). Просроченная задолженность по страховым взносам в Фонд по состоянию на 1 января 2004 года составила 205 млрд. рублей, а это более 70 процентов суммы, направленной на финансирование январских пенсий.

Вряд ли кто-нибудь будет отрицать, что возможности пенсионной системы в решающей степени определяются численностью занятых в экономике. Реальность же такова, что плательщиков взносов становится все меньше, а получателей пенсий по отношению к ним все больше. Если в 1990 году на 100 пенсионеров приходилось 218 работников, то в 2003 году — 164, а в 2005 году по прогнозу их число составит уже 157. Такие изменения в соотношении плательщиков взносов и получателей пенсий происходят и будут происходить в последующие годы как в связи с выходом на пенсию лиц, родившихся в послевоенный период высокой рождаемости, так и в связи с сокращением занятости.

Сегодня в Беларуси различные пенсии получает более 26 процентов общей численности населения (в развитых государствах доля пенсионеров, как правило, не превышает 20 процентов). Демографическая ситуация складывается так, что к 2020 году в республике 28 процентов населения будет старше нынешнего пенсионного возраста (55/60), а общая доля пенсионеров с учетом получателей пенсий по инвалидности и других пенсий, назначаемых в возрасте ниже пенсионного, превысит 32 процента. Численность пенсионеров и работников со временем может сравняться.

При таком раскладе нагрузка на экономически активное население может стать чрезмерной. К тому же старение населения влечет за собой рост расходов не только на пенсионное обеспечение, но и на медицинское, социальное обслуживание. Что касается пенсионной системы, то она во что бы то ни стало должна быть приспособлена к изменяющимся условиям. В противном случае груз завоеваний социализма в виде самого низкого пенсионного возраста, беспрецедентной системы досрочного пенсионного обеспечения и других нерациональных подходов и норм вряд ли позволит когда-нибудь достичь приемлемого уровня пенсий.

Известно, что Беларусь остается в числе лишь нескольких государств с самым низким пенсионным возрастом (в десяти государствах бывшего СССР он выше на 2—8 лет для женщин и на 2—5 лет для мужчин, в развитых государствах, соответственно, — на 5—12 и 5—7 лет). Плюс к этому у нас каждому четвертому новому пенсионеру пенсия по возрасту или за выслугу лет назначается на 5—10 лет раньше общеустановленного возраста. При этом в случае продолжения работы, в отличие от прежнего порядка, пенсии выплачиваются практически без ограничений. Сегодня на выплату пенсий работающим пенсионерам направляется почти пятая часть пенсионных средств (свыше 480 тысяч пенсионеров продолжает работать). В результате пенсия вместо того, чтобы компенсировать утраченный доход, является надбавкой зачастую к сравнительно высокому заработку работающего пенсионера, в то время как большинство пенсионеров, утративших возможность работать, с трудом сводит концы с концами. К примеру, если бы в период работы выплачивалось 50 процентов назначенной пенсии (без ее снижения при низком заработке) уровень пенсий неработающим пенсионерам можно было бы поднять на 8—10 процентов. Однако, подобное предложение воспринимается негативно. Противники, а это, прежде всего, сами работающие пенсионеры, к сожалению, не склонны понимать того, что рано или поздно и им придется жить лишь на пенсию.

Что касается такой непопулярной меры, как повышение пенсионного возраста, то не обязательно это делать огульно. Повысив возрастную планку, можно сохранить право выхода на пенсию на старых условиях. То есть работнику, достигшему 55/60 лет, предоставить возможность выбора: оставить работу и получать пенсию или остаться на работе (что для многих является более желанным вариантом), но без получения пенсии, которая впоследствии будет исчислена в повышенном размере. Результатом введения так называемого "гибкого" пенсионного возраста было бы сочетание как личных, так и коллективных интересов. Пенсионная система получила бы возможность более эффективно маневрировать финансами пенсионного страхования, прежде всего в пользу тех, кто теряет возможность зарабатывать.

Как свидетельствует мировой опыт, выбор путей к обеспечению достойных пенсий ограничен. Нельзя рассчитывать лишь на экономический рост. Без соответствующих преобразований внутри пенсионной системы, хотя и непопулярных для отдельных заинтересованных категорий граждан, не обойтись. Они диктуются интересами всего общества и, в первую очередь, интересами самих пенсионеров — нынешних и будущих.

В заключение о пенсиях бывших военнослужащих и других силовиков. Действительно, жизнь на пенсии у них полегче. У людей в погонах пенсионные гарантии, финансируемые из бюджета, всегда были заметно выше (немало аргументов в обоснование такого преимущества высказано военными пенсионерами на страницах "Народной воли"). Однако одно дело, когда военный пенсионер живет лишь на пенсию, а другое дело, когда такой пенсионер работает, имея еще и высокий заработок. Поэтому прав майор в отставке А.Г.Курлович ("НВ", 27.11.2003 г.), считающий возможным ограничение совокупного дохода такого пенсионера (кстати, в советские времена назначенная пенсия выплачивалась в виде разницы между получаемым заработком и осовремененным денежным довольствием по последней должности перед увольнением со службы). Надо полагать, что в таком случае налогоплательщики и сторонники урезания военных пенсий до уровня гражданских терпимее относились бы к их более высокому уровню.

**Геннадий ПАШКОВСКИЙ,**
**работающий пенсионер.**
**Фото ByMedia.net**

ПУЛЬС

## Крэдытны партфель «Прыорбанка»

"Прыорбанк", трэці ў Беларусі банк па памеры валавых актываў, павялічыў балансавы прыбытак у студзені 2004 года да 3,4 млрд. рублёў, ці ў 2,8 раза ў адносінах да студзеня мінулага года.

Паводле інфармацыі з "Прыорбанка", яго чыстыя актывы павялічыліся за студзень на 4,8 працэнта — да 1,048 трлн. беларускіх рублёў на 1 лютага 2004 года. Уласны капітал банка ўзрос на 2,1 працэнта — да 192 млрд. беларускіх рублёў.

Аб'ём крэдытнага партфеля "Прыорбанка" павялічыўся за студзень на 3,1 працэнта — да 630 млрд. беларускіх рублёў на 1 лютага і склаў 60 працэнтаў актываў банка. Пры гэтым асноўнымі крэдытаатрымальнікамі "Прыорбанка" з'яўляюцца прамысловыя прадпрыемствы — 50 працэнтаў партфеля, гандлёвыя кампаніі — 17 працэнтаў, насельніцтва — 9 працэнтаў і сельскагаспадарчыя арганізацыі — 7 працэнтаў.

**Аляксей АРЭШКА.**

## «Інка-фуд» збіраецца...

На працягу бліжэйшых двух гадоў замежнае прадпрыемства "Інка-Фуд" збіраецца наладзіць вытворчасць высакаякаснай мяснoй прадукцыі з беларускай сыравіны.

Сёння прадпрыемства "Інка-Фуд", зарэгістраванае ў свабоднай эканамічнай зоне "Брэст", вырабляе больш за 90 найменняў прадукцыі. Уся сыравіна, апроч ялавічыны, паступае з Еўропы.

"Мы маем намер вырабляць прадукцыю ў найлепшых беларускіх традыцыях — а значыць, якасную і з беларускай сыравіны", — гаворыць выканаўчы дырэктар "Інка-фуд" Валерый Сахашчык.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Намеры «Хайдэльбергцэмента»

Кіраўніцтва нямецкага канцэрна "Хайдэльбергцэмент" працягвае перамовы з Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва Беларусі на прадмет супрацоўніцтва з Беларускім цэментавым заводам (БЦЗ) у Касцюковічах.

Дэлегацыя канцэрна на чале з членам яго праўлення, выканаўчым дырэктарам у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе Даніэлем Гацье наведала Беларусь. Па выніках перамоў вырашана стварыць рабочую групу з прадстаўнікоў канцэрна і прадпрыемства для падрыхтоўкі сумеснага інвестыцыйнага праекта.

## А цяпер і ірландская кампанія «Crh group»

Завяршыўся рабочы візіт у Беларусь прадстаўнікоў ірландскай кампаніі "CRH Group" — аднаго з сусветных лідэраў у вытворчасці будаўнічых матэрыялаў. На працягу тыдня вядучыя спецыялісты гэтай кампаніі абмяркоўвалі з кіраўніцтвам і спецыялістамі ААТ "Краснасельскбудматэрыялы" (Ваўкавыскі раён Гродзенскай вобласці) умовы двухбаковага супрацоўніцтва.

Беларускі бок прапаноўвае стратэгічнаму інвестару, які прыйдзе на ААТ "Краснасельскбудматэрыялы", пакет акцый памерам ад 25 да 28 працэнтаў статутнага фонду. У сваю чаргу, ад інвестара чакаюць прыцягнення "ноу-хау" па тэхнічнай мадэрнізацыі цэментнай вытворчасці, якое дазволіць павялічыць выпуск прадукцыі і пашырыць рынкі збыту.

На ўваходжанне ў ААТ "Краснасельскбудматэрыялы" прэтэндуе і іншы найбуйнейшы сусветны вытворца ў гэтай галіне — французская група "Lafarge". У 1996 годзе "Lafarge" не выкарыстала магчымасць куплі 75 працэнтаў акцый гэтага прадпрыемства і зараз праяўляе да ААТ "Краснасельскбудматэрыялы" пэўную цікавасць.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Сутыкнуўся з цягніком

У вёсцы Канстанцінава Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці жыхар вёскі Дзеркаўшчына, кіруючы аўтамашынай УАЗ, пры рабоце гукавой і светлавой сігналізацыі выехаў на чыгуначны пераезд і сутыкнуўся з грузавым цягніком.

У выніку вадзіцель загінуў, а пасажыр, што ехаў разам з ім, змешчаны ў бальніцу.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Аб'яўлены шорт-ліст літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес»

Трэці год запар абмеркаванне кандыдатур на суісканне прэміі было праведзена праз Інтэрнэт — на форумах сайтаў litara.net і knihi.com. У кароткі спіс прэміі ўключана пяць беларускіх мастацкіх кніг, якія выйшлі з друку ў мінулым годзе. Гэта кнігі Валянціны Аксак "Віно з Каліфорніі", "Жылі-былі паны Кубліцкія ды Заблоцкія" Пятра Васючэнкі, "Рэканструкцыя неба" Вольгі Гапеевай, "Вогнепаклоньнікі" Янкі Лайкова і "Азярод" Сяргея Рублеўскага.

У адрозненне ад двух папярэдніх гадоў сярод намінантаў незалежнай літаратурнай прэміі ёсць дзве кнігі, выдадзеныя ў дзяржаўным выдавецтве "Мастацкая літаратура", — гэта кніга прозы Пятра Васючэнкі і паэтычны зборнік Янкі Лайкова.

Літаратурная прэмія "Гліняны Вялес" была заснавана ў 1993 годзе "Таварыствам вольных літаратараў". Прэмія прысуджаецца за лепшую беларускую мастацкую кнігу года. Уручаецца гліняная статуэтка язычніцкага бога Вялеса, апекуна мастацтваў, у Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання. Першым лаўрэатам прэміі ў 1993 годзе быў прызнаны паэт Ігар Бабкоў за зборнік "Solus Rex". Летась прэмію атрымаў Альгерд Бахарэвіч за кнігу "Практычны дапаможнік па руйнаванні гарадоў".

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

КРИМИНАЛ

## Как Дмитрий Жлоба заработал пятую «ходку»

Солнце уже опускалось к невидимому за покрытым багрянцем лесом горизонту, когда в пустой торговый зал магазина в деревне Остров Рогачевского района зашел необычно одетый покупатель. На его голове была натянутая до подбородка шапочка-маска с прорезями для глаз. В руках, не по сезону облаченных в кожаные перчатки, гость держал нож. У продавщицы сразу пропал дар речи — она поняла, что посетитель делать покупки не собирается. Впрочем, кричать было бесполезно — на улице не было ни души. Подойдя к кассе, незнакомец принялся выгребать наличность. В ответ на слабую попытку защитить выручку женщина получила несколько ударов рукояткой ножа по голове и, обливаясь кровью, отступила. 350 тысяч целковых, 20 пачек импортных сигарет и несколько пачек чая перекочевали в сумку "ниндзя". Когда продавщица кое-как пришла в себя, злоумышленника и след простыл.

На место происшествия выехал весь состав отдела уголовного розыска РОВД — не каждый день в районе случается такое дерзкое нападение. После оказания медпомощи потерпевшая работница прилавка смогла весьма приблизительно назвать приметы преступника — сказалось нервное потрясение.

Сыщики три дня буквально по крупицам собирали улики, опрашивая жителей деревень по всей округе. Все это время разбойник пьянствовал в десяти километрах от магазина. На четвертый день за ними приехала машина, именуемая по старинке "черный ворон".

Нигде не работавший 30-летний житель поселка Красный Берег соседнего Жлобинского района Дмитрий Жлоба свою пятую "ходку" проведет в исправительной колонии строгого режима — суд Рогачевского района назначил к отбытию "червонец" с конфискацией имущества, разумеется.

## «Больше не попадемся...»

Среди белого дня осенью прошлого года двое жителей райцентра Хойники после самовольного отключения сети от трансформаторного пункта у деревни Рябец срезали 186 килограммов провода стоимостью 837 тысяч рублей. Смотав добычу, уже собирались погрузить ее в гужевую повозку. К их удивлению, к месту отключения электроэнергии уже спешила аварийно-выездная бригада. Завидя "летучку", бросили похищенное вкупе со специальным инструментом и страховочными поясами и поспешили скрыться с места преступления.

Вызванные сотрудники местного райотдела внутренних дел оперативно вычислили электроворов — теперь уже бывших... работников районных электросетей.

Суд Хойникского района с учетом того, что на восстановление линии понадобились минимальные затраты, приговорил Юрия Жигадло и Сергея Зинкевича не к самому строгому наказанию, предусмотренному за подобное деяние, — к четырем месяцам ареста каждого.

Обвиняемые воспользовались правом, предоставленным Уголовным кодексом, и обжаловали приговор. А на момент рассмотрения дела в судебной коллегии по уголовным делам Гомельского областного суда начал действовать Закон об амнистии, вообще освободивший злоумышленников от ответственности. Из зала заседания они вышли "чистыми", хотя и виновными.

На пожелание одного из судей областного суда в адрес обвиняемых в дальнейшем вести себя более благопристойно один из них отреагировал весьма двусмысленно: "Больше не попадемся..."

Остается добавить — если не украдете!

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

ЧУЛІ?

## Затрымалі і адпусцілі



Затрыманыя міліцыяй 14 лютага на плошчы Свабоды ў Мінску актывісты незарэгістраванай арганізацыі "Малады фронт" (МФ) былі адпушчаны ў той жа дзень пасля дадзеных імі тлумачэнняў.

Як ужо паведамляў БелаПАН, з плошчы Свабоды планавалася пачаць несанкцыянаванае шэсце да пасольстваў замежных дзяржаў, прымеркаванае да Дня святога Валянціна. Усяго былі затрыманы 6 чалавек. Як зазначыў Павел Севярынец, падобнае прэвентыўнае затрыманне перад масавым мерапрыемствам практыкуецца сталічнай міліцыяй упершыню.

Разам з тым група "маладафронтаўцаў" усё ж такі наведала ў гэты дзень шэраг пасольстваў. Паводле слоў прадстаўнікоў МФ, многія дыпламаты расцанілі прэвентыўнае затрыманне маладых людзей як найгрубейшае парушэнне правоў чалавека і паабяцалі праінфармаваць аб гэтым кіраўніцтва сваіх дзяржаў.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**
**Фота ByMedia.net**

## Канфіскаваны аўтамабіль

*Рашэннем суда Наваполацка канфіскаваны аўтамабіль "Лексус", затрыманы мытнікамі. Яго кошт — больш за 41 тысячу еўра.*

"Лексус" перавозіўся на грузавіку транзітам з Эстоніі ва Украіну разам з яшчэ адным дарагім аўтамабілем — "Таётай". Падчас праверкі суправаджальных дакументаў высветлілася, што ў іх адсутнічаюць адзнакі латвійскай мытні. Аднак у кабіне грузавіка былі знойдзены сапраўдныя дакументы, што прайшлі латвійскую мытню, з іншымі звесткамі, якія розніліся ад пададзеных беларускім мытнікам: кошт "Лексуса" ў іх быў значна вышэй. Як паведаміла прэс-служба ДМК, вадзіцель фуры, на якой перавозіліся аўтамабілі, грамадзянін Латвіі "прызнаўся, што падмену дакументаў пасля праходжання латвійскай мяжы ён зрабіў па просьбе кіраўніка фірмы".

У выніку рашэннем суда аўтамабіль "Лексус" быў канфіскаваны і вернуты ў даход дзяржавы, а "Таёта" прадоўжыла свой шлях ва Украіну, бо дакументы на яе былі ў поўным парадку.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Па падазрэнні ў забойстве затрыманы бацька

*У вёсцы Райца Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці ў доме 36-гадовага мясцовага жыхара з сінякамі на твары былі знойдзены труп 3-гадовага сына і з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай, пераломам касцей зводу чэрапа другі сын, 2003 года нараджэння. Гэты хлопчык змешчаны ў бальніцу. Пра гэта БелаПАН паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязей МУС Беларусі.*

Паводле заключэння судова-медыцынскай экспертызы, смерць хлопчыка наступіла ад механічнай асфіксіі (удушэння). Следча-аператыўнай групай Карэліцкага РАУС па падазрэнні ва ўчыненні злачынства затрыманы бацька, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## І пацячэ святло ракой!

З неймаверным імпэтам, як аб дзяржаўным трыумфе, паведаміла днямі афіцыйнае Беларускае тэлебачанне (праз канал ГНТ) аб тым, што наша краіна скарачае імпарт расійскай электраэнергіі. Палітычны сэнс гэтай "сенсацыі" зразумелы: наш прэзідэнт пакажа Чубайсу "кузькіну маці". Адначасова дыктары запэўнілі, што недахоп электрычнасці будзе кампенсаваны за кошт нарошчвання магутнасці Лукомльскай ДРЭС, якая, прымусіўшы свае генератары круціцца больш хутка, дасць краіне шмат энергіі таннай і надзейнай. Забыліся, на жаль, паведаміць, адкуль возьмецца дадатковая колькасць расійскіх нафты і газу. І тым больш не было сказана аб адной падзеі на Віцебшчыне, важнасць якой цяжка перабольшыць.

А падзея такая: у Браславе пачалося аднаўленне мясцовай гідраэлектрастанцыі. Падобных станцый у Беларусі наогул, а на Віцебшчыне ў прыватнасці, у 50-х гадах было пабудавана шмат, але праз 20 год усе яны былі закансерваваны, бо тады з'явіліся больш эфектыўныя станцыі — на мазутным і газавым паліве.

Аднак апошнім часам гэтых відаў энергетычнай сыравіны ў Беларусі становіцца ўсё менш, бо Расія скарачае іх пастаўкі саюзнікам, а каштуюць яны ўсё даражэй.

Вось таму спецыялісты аб'яднання "Віцебскэнерга" прыйшлі да высновы, што замест спальвання мазуту і газу выгадней адрамантаваць і ўключыць у энергасістэму малыя ГЭС, што сілкуюцца прыроднай, бясплатнай, сілай рэчак.

Рэканструкцыя Браслаўскай ГЭС запатрабуе абнаўлення тэхналагічнага абсталявання і сур'ёзнага рамонту іншых асноўных фондаў станцыі. Але, на думку намесніка генеральнага дырэктара "Віцебскэнерга" Аркадзя Казлоўскага, усе выдаткі даволі хутка акупяцца, бо ажыўленая станцыя поўнасцю забяспечыць электраэнергіяй усе аб'екты раённага цэнтра.

Дарэчы, энергію прыроднай стыхіі выкарыстоўваюць для сваёй гаспадаркі многія краіны Еўропы. Магчыма, калі б на ўсіх буйных і малых рэках Беларусі працавалі ГЭС, а ў гаспадарках прыжыліся ветракі і сонечныя батарэі, наша дзяржава сапраўды магла б адмовіцца ад імпартнай электраэнергіі, а заадно раз і назаўжды закрыць тэму будаўніцтва АЭС. Чаго-чаго, а рэчак у нас багата. Вада ж, якая бяжыць сама, каштуе значна танней за вугаль, газ і нафту.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## На «Шкловалакно» па... конкурсу

*Людзі старэйшага ўзросту памятаюць, як цяжка было ў свой час уступіць у КПБ або атрымаць білет сябра Таварыства паляўнічых. Для гэтага патрэбна было сабраць шмат розных даведак і рэкамендацый, адбыць выпрабавальны тэрмін.*

Сёння не менш складана ўладкавацца на адказную пасаду на полацкім прадпрыемстве "Шкловалакно". Сёлета гэтае Адкрытае акцыянернае таварыства пачало праводзіць конкурс для тых, хто хоча працаваць у цэхах спецыялістамі або займаць кіруючыя пасады. Прэтэндаваць на іх цяпер могуць толькі людзі з вышэйшай інжынернай адукацыяй, не менш як пяцігадовым стажам працы на "Шкловалакне" і нават з веданнем замежнай мовы. Мала таго, ад кандыдатаў на кіруючую ролю патрабуецца асабісты бізнес-план: нешта накшталт рэферата аб шляхах вырашэння вытворчых праблем прадпрыемства.

Такія незвычайна высокія прэтэнзіі да спецыялістаў апраўдваюцца не толькі Працоўным кодэксам Беларусі, які дазваляе праводзіць падобныя конкурсы, але і тым, што аб'яднанне "Шкловалакно" трымае марку перадавога прадпрыемства галіны, пастаўляе прадукцыю ў 38 краін свету. Праўда, заробкі тут не самыя высокія ў вобласці і нават у рэгіёне, але, магчыма, з цягам часу спецыялістам "Шкловалакна" будуць створаны такія ўмовы працы, а зарплата дасягне такога ўзроўню, што ён супадзе з вышынёй конкурсных патрабаванняў. Бо калі гэта не будзе зроблена, то сюды і без конкурсу ніхто ісці не пажадае.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

## Козулин много читает

***Бывший ректор БГУ Александр Козулин до сих пор не трудоустроился. На работу в родной БГУ его не приняли. Предложения, которые ученый получил после отставки, он пока рассматривает.***



От должности ректора БГУ Александр Козулин был освобожден 17 ноября прошлого года. Скандал, который разгорелся вокруг структурного подразделения университета — предприятия "Унидрагмет БГУ", коснулся и ректора. Когда по подозрению в краже более 300 кг золота были задержаны и арестованы руководители предприятия Георгий Корзун и Вячеслав Санников, Александра Козулина вызвали на допрос в Следственный комитет МВД, объявили подозреваемым и взяли с него подписку о невыезде. В тот же день А.Лукашенко освободил Козулина от занимаемой должности.

Сегодня мера пресечения в отношении Г.Корзуна и В.Санникова изменена. Они находятся дома. Руководителям "Унидрагмета", как известно, выдвинуто другое обвинение — в неуплате предприятием таможенных платежей. Следствие продлится до 5 апреля.

Александр Козулин после отставки хотел остаться в родном БГУ. Будучи ректором, Александр Владиславович имел четверть ставки по совместительству. Он написал заявление о приеме на работу на имя своего преемника — Василия Стражева. Однако места для доктора педагогических наук А.Козулина в родной Альма-матер не нашлось. Заявление своего коллеги Василий Стражев рассматривал три недели, а потом оставил на нем резолюцию — "отказать". Без каких-либо комментариев.

— *Пока я отдыхаю, много читаю,* — признается Александр Козулин. — *Еще никогда у меня не было столько свободного времени. Приглашения на работу были. Некоторые я сразу отмел, некоторые рассматриваю. Может, придется поработать за пределами Беларуси. Но пока идет следствие по "Унидрагмету", уезжать не хочу. Я сам принял такое решение. Не хочу, чтобы меня кто-нибудь упрекнул в том, что я, дескать, удрал. Я знаю, что никакого криминала в действиях руководителей предприятия не было. "Унидрагмет" — жестко контролируемая структура — работала открыто и прозрачно.*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

